**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 24 (740) 12 чэрвеня 2014 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае




Фота Ул. Скрабатуна.
Купанне ў фантане.

### Віцебская вобласць

## Патрапіў пад раздачу

■ Станіслаў Раманчук

**Да чарговай нарыхтоўкі кармоў на Віцебшчыне быццам рыхтаваліся сёлета сур'ёзна і паставілі задачу на абласным семінары пастарацца паўсюдна завяршыць першы ўкос траў да 10 чэрвеня.**

Аднак ва ўрадзе Беларусі былі незадаволены нізкімі тэмпамі работ у самай адстаючай па краіне Віцебскай вобласці і паведамілі аб гэтым главе дзяржавы падчас выязной нарады па пытаннях кормавытворчасці ў Смалявіцкім раёне. Імгненна А. Лукашэнка ў сваёй суровай манеры папярэдзіў старшыню аблвыканкама А. Косінца аб адказнасці за невыкананне ўзятых на сябе абавязкаў. Як на грэх, у той дзень у кіраўніка Прыдзвіння, доктара медыцынскіх навук, генерал-маёра быў дзень нараджэння, яму споўнілася 55 гадоў. Падліў масла ў агонь і прэм'ер-міністр, які заявіў, што мясцовыя кадры пачынаюць "наглець, права качать". Карэспандэнт БЕЛТА не паведаміў, праўда, у чым правініліся старшыні райвыканкамаў і кіраўнікі адстаючых гаспадарак, а вось жорсткая крытыка становішча спраў прадоўжылася. У нашым рэгіёне кіраўніцтвам Беларусі была пастаўлена задача завяршыць уборку траў першым укосам да 15 чэрвеня. Калі з гэтай задачай Віцебшчына не справіцца, то прэзідэнт прыгразіў, што яна застанецца без губернатара. Дарэчы, ва ўрадзе краіны крытыкуюць і падыходы кіраўніцтва вобласці па дадатковым увядзенні ў севазварот за апошнія 5 гадоў амаль 210 тысяч гектараў закінутых земель і няўдобіц, каб болей атрымаць збожжа. Ёсць іншы падыход, паколькі наш паўночна-заходні край лепей падыходзіць для вырошчвання мяса і малака.

### Браслаўскі раён

## Над возерам два фестывалі

■ Чэслаў Якубовіч

**Своеасаблівы марафон святаў мастацтваў у Прыдзвінні штогод у пачатку чэрвеня адкрывае традыцыйны фестываль культуры "Браслаўскія зарніцы-2014"**. Ён распачаўся яшчэ да вайны за польскім часам, сёлета праводзіўся ў 47-ы раз. Пяць апошніх гадоў гасцінная азёрная Браслаўшчына прымае гасцей у новым статусе міжнароднага фестывалю, які ў гэтым годзе абраў дэвіз "шануем традыцыі гасціннасці", бо сюды прыехалі больш за 600 удзельнікаў, якія прадстаўлялі акрамя Беларусі яшчэ 6 краін Еўропы і Кітай. Сумаваць часу не было, бо над возерам тры дні доўжыліся разнастайныя мерапрыемствы, а першы дзень фестывалю быў аддадзены дзецям. Паблізу мясцовага касцёла св. Дзевы Марыі прайшло свята творчасці юных "Галактыка дзяцінства", дзеці-сіроты пакаталіся на цеплаходзе па возеры Дрывяты. У мясцовым музеі адкрылі выставу пра рыбалоўства на Браслаўшчыне. Цяплом і сонцам парадаваў другі дзень фестывалю, які дапоўніў і ўпрыгожыў вечарам таксама фестываль сярэднявечнай культуры "Меч Брачыслава" на Замкавай гары, вакол якой паўстаў сам горад. Да позняга вечара тут дэманстравалі свой быт і майстэрства розныя ваяры і рыцары, прайшоў камандны рыцарскі турнір, гучала музыка мінулых эпох. Усеагульную цікавасць выклікала старажытная дзея здабычы агню, да якой далучыўся і кіраўнік раёна Сяргей Шматаў. Упрыгожыў азёрны фестываль і песенны конкурс харавой музыкі, у якім удзельнічала 14 айчынных калектываў і хор рускай песні з Пскоўскай вобласці. Як і ў іншых мясцінах, браслаўчане і госці фестывалю былі ў захапленні ад святочнага феерферку, калі начное неба расквецілі залпы салюту над азёрным краем. Ад Браслава эстафету святаў прынялі Паставы, дзе ў прадстаячыя выхадныя адбудзецца XVII Міжнародны фестываль народнай музыкі "Звіняць цымбалы і гармонік".

### Пастаўскі раён

## Самы сумны званок

■ Кастусь Александровіч

**Момант развітання са школай заўсёды быў адным з самых памятных і хвалюючых у жыцці кожнага чалавека.**

Аднак сёлета на душы ў многіх настаўнікаў і вучняў Казлоўшчынскай СШ Пастаўскага раёна было асаблівa сумна падчас цырымоніі апошняга школьнага званка з нагоды завяршэння навучальнага года. Таксама нявесела было шасцярым яе выпускнікам вечарам у райцэнтры, дзе прайшоў штогадовы развітальны баль развітання моладзі з дзяцінствам. Юнакі і дзяўчаты ведалі, што болей у сваю школу яны ніколі не прыйдуць, бо яна да 1 верасня закрыецца назаўсёды, у ліку яшчэ 75 падобных малакамплектных школ краіны. З восені большасць мясцовых вучняў чакаюць за партамі ў суседняй Парыжскай базавай школе, старшакласнікам прапанавана завяршыць вучобу ў гарпасёлку Варапаева. Падобныя пачуцці перажываюць зараз і ў Ваўкоўскай БШ, якая таксама будзе закрыта, хоць мае дабротны двухпавярховы цагляны будынак і спартыўную залу. Дзяцей будуць вазіць школьным аўтобусам на заняткі ў 14 км адсюль у новую Дунілавіцкую СШ-дзетсад. Аднак вучыць тут, як і ў падлягаючых таксама "аптымізацыі"Янкішках, з кожным годам становіцца ўсё меней каго. Дарэчы, летась у раёне закрылі яшчэ адну школу ў Лукашове на бойкай трасе Полацк-Вільнюс. А вось дэмаграфічная сітуацыя ў глыбінцы трывожная. У пачатку стагоддзя на Пастаўшчыне налічвалася нават 48 агульнаадукацыйных школ, але за апошнія 10 гадоў прыйшлося закрыць 21 установу адукацыі. Сёлета іх лёс паўтораць яшчэ тры школы, да якіх штогод далучаюцца вясковыя клубы, ФАПы, бібліятэкі і магазіны ў абязлюдзеўшых паселішчах. Цяпер многім дзецям стала далёка дабірацца на вучобу, але гэта тэндэнцыя захаваецца і ў бліжэйшыя гады.

### Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 12.06.14 | | | | Пятніца 13.06.14 | | | | Субота 14.06.14 | | | | Нядзеля 15.06.14 | | | | Пн.16.06.14 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 02 | 08 | 14 | 20 | 02 | 08 | 14 | 20 | 02 | 08 | 14 | 20 | 02 | 08 | 14 | 20 | 02 | 08 | 14 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +15 | +21 | +22 | +20 | +13 | +17 | +20 | +18 | +15 | +15 | +18 | +18 | +12 | +15 | +17 | +15 | +10 | +13 | +17 |
| Ціск | 755 | 754 | 754 | 754 | 754 | 753 | 751 | 750 | 748 | 746 | 746 | 747 | 748 | 749 | 750 | 751 | 753 | 753 | 753 |
| Вільготнасць | 93 | 75 | 70 | 43 | 79 | 71 | 54 | 51 | 83 | 94 | 65 | 54 | 90 | 88 | 55 | 46 | 84 | 71 | 48 |
| Вецер м/сек | 1 | 2 | 5 | 5 | 5 | 7 | 7 | 4 | 5 | 3 | 3 | 3 | 4 | 5 | 7 | 5 | 5 | 5 | 4 |
| | З | С-З | С-З | С-З | С-З | С-З | С-З | С-З | З | З | С-З | С-З | С-З | С-З | С | С | С-З | С | С |

# Аб самым надзённым

## РАСІЙСКІ БАНК ВТБ ЗНОЎ ДАПАМОГ БЕЛАРУСІ ЧАСОВА ВЫРАШЫЦЬ ПРАБЛЕМЫ З НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ВАЛЮТАЙ




■ Аляксандр Цішкевіч

**А цяпер расійскія афіцыйныя дзеячы абяцаюць нам дапамагчы пазбегнуць праблем на айчынным валютным рынку. З улікам сваіх цяжкасцей Масква выдзеліла спачатку паўмільярда крэдыту, а ўслед за гэтым буйны расійскі банк ВТБ таксама падставіў сваё плячо.**

Як і чакалася, напрыканцы мая ў новай казахскай сталіцы Астане быў падпісаны Дагавор аб стварэнні Еўразійскага эканамічнага саюза. Аднак з гэтай нагоды з беларускага боку штосьці не адчуваецца асаблівай радасці і эйфарыі. Перад тым, як паставіць пад гэтым дакументам свой подпіс, А. Лукашэнка перад тэлекамерамі заявіў, што ў яго застаецца пэўная незадаволенасць, бо інтэграцыйны праект атрымаўся не зусім такі, на які разлічваў афіцыйны Мінск.

Зразумела, беларускія ўлады не задавальняе, што на аддаленую перспектыву адкладзены пытанні паставак у нашу краіну расійскай нафты і размеркавання потым экспартных пошлін ад вырабленых на заводах у Наваполацку і Мазыры нафтапрадуктаў пасля іх продажу спажыўцам у Еўропе. Беларусі не ўдалося дабіцца, каб адзіны рынак нафты і нафтапрадуктаў пачаў дзейнічаць з 1 студзеня 2015 года, з таго моманту, калі запрацуе гэты ЕАЭС. Дарэчы, новае міждзяржаўнае аб'яднанне не будзе фарміраваць пакуль і адзіную грашовую, фінансавую і сацыяльную палітыку, хоць і стварыла некалькі наднацыянальных органаў.

У прыватнасці, у беларускай сталіцы, як дамовіліся, будзе размяшчацца Суд ЕАЭС, у Алматы з 2025 года структура ЕАЭС па рэгуляванні фінансавых рынкаў, а асноўная штаб-кватэра гэтай арганізацыі, канешне ж, у Маскве. Эканамісты адразу падлічылі, што ЕАЭС па сваім патэнцыяле ў 8 разоў меншая ВУП Еўрасаюза, прайграе амаль у 3 разы еўрапейцам і па колькасці насельніцтва, не кажучы ўжо, пра тэхналагічны ўзровень. Асноўнае багацце структуры, пуцінскага палітычнага праекта – гэта энерганосьбіты, расійскія і казахскія нафта і газ.

У сваю чаргу Крамлю прыйшлося заплаціць беларускаму кіраўніцтву за падтрымку. У нашай краіне набліжаюцца чарговыя прэзідэнцкія выбары і ўсходні саюзнік цяпер зацікаўлены, каб у нас усё было ціха і спакойна, не адбылося чарговай дэвальвацыі беларускай валюты. На наступны 2015 год Масква пагадзілася, каб Беларусь пакінула ў сваім бюджэце 1,5 млрд. долараў экспартных пошлін на нафтапрадукты. Далей прыйдзецца зноў абедзвюм краінам весці перамовы па гэтым пытанні і, магчыма, беларусы змогуць дабіцца павелічэння гэтай сумы. Для нас – гэта адчувальна, бо па выніках 2012 і 2013 гадоў мы пералічылі ў расійскі бюджэт 7,2 млрд. USD.

А цяпер расійскія афіцыйныя дзеячы абяцаюць нам дапамагчы пазбегнуць праблем на айчынным валютным рынку. З улікам сваіх цяжкасцей Масква выдзеліла спачатку паўмільярда крэдыту, а ўслед за гэтым буйны расійскі банк ВТБ таксама падставіў сваё плячо. Дасягнулі дамоўленасць, што беларускі ўрад да сярэдзіны чэрвеня атрымае брыдж-крэдыт, другі па ліку за паўгода ў суме 1 млрд. долараў. Гэта зноў дапаможа прыпыніць зніжэнне золатавалютных рэзерваў, бо пасля завяршэння чэмпіянату свету ў суайчыннікаў пачаўся сезон масавых водпускаў і ўзраслі страхі за магчымае падзенне белрубля.

Наша нацвалюта і зараз пакрыху слабее, паабяцалі да канца года яе дэвальвацыю яшчэ на 7-8 %. А ўвогуле мы ўступілі ў геапалітычны саюз, які не абяцае нам сапраўднага росквіту і спрыяльных перспектыў. Эканоміка, як была, так і будзе саступаць, расійскай, адсталай па сусветных мерках, у 14 разоў. Па разліках, да 2030 года тройка ЕАЭС зможа забяспечыць прырост ВУП у памеры 900 млрд. долараў, наша доля стане мізэрнай і самай маленькай. Толькі наіўны можа спадзявацца, што беларускія тавары будуць запатрабаваны ў свеце, за выключэннем хіба што калійных угнаенняў. А вось украінцы, грузіны, малдаваны зрабілі іншы выбар, яны будуць у Еўрасаюзе, пазней стане ясна, хто з іх болей выйграў.

Пры гэтым трэба ведаць, што беларусаў чакае пасутнасці вяртанне ў ранейшы СССР, бо мы выйсці з ЕАЭС можам толькі са згоды іншых краін-членаў гэтага саюза. Засмучае, што беларуская эканоміка зараз у крызісе: толькі ў красавіку аб'ёмы вытворчасці зноў знізіліся, адразу на 7,7 %. Нашы тавары слаба купляюць, па стане на 1 мая запасы непрададзенай прадукцыі на складах дасягнулі 83,5 % сярэднемесячнага аб'ёма прамвытворчасці.

Нарэшце, ужо цяпер у гэтым будучым трайным саюзе ЕАЭС не ўсё гладка, бо падаюць паказчыкі ўзаемнага гандлю ( на 12,6 % у I квартале), а прэм'ер М. Мясніковіч чэсна сказаў, што традыцыйная мадэль развіцця беларускай прамысловасці сябе вычарпала. Да таго ж сёлета ў беларусаў не стала рапатам хапаць на ўсіх свініны, высветлілася, што і кармоў не хапае. У выніку ў беларускай вёсцы паабяцалі ўвесці "жалезную дысцыпліну" нараўне з "прыгонным правам", як гэта раней ажыццявілі ў дрэваапрацоўцы. Вось толькі апошняе чамусьці слаба дапамагло розным Мастоў і Барысаўдрэвам выйсці з крызісу, паспяхова завяршыць іх мадэрнізацыю.

## Дзень за днём

**Беларусь падпісала дагавор аб ЕАЭС, разлічваючы атрымаць прэферэнцыі з боку Расіі і папрасіла яе павялічыць пастаўкі нафты ў 2015 годзе. Рэальная зарплата беларусаў павялічылася сёлета толькі на 0,3 %. Валютныя паступленні ад экспарту айчынных тавараў у студзені-красавіку зменшыліся яшчэ на 1 млрд. USD. МУС Беларусі прапанавала ўзмацніць адказнасць за ўхіленне ад працы абавязаных асоб. На цэнтралізаванае тэсціраванне зарэгістраваліся на 12,3 тысяч чалавек меней, чым год назад. Пачатак лета парадаваў беларусаў цёплым надвор'ем, але з ліўнямі і навальніцамі.**

# Важнейшыя навіны свету

**Германія.** Аргкамітэт міжнароднай канферэнцыі па супрацьракетнай абароне ў Майнцы адмовіў аб удзеле ў ёй дэлегацыі Расіі, ізаляцыя РФ дзейнічае і ў іншых сферах.

**Казахстан.** Лідары РФ, РБ і Казахстана падпісалі дагавор у Астане аб стварэнні з 1 студзеня 2015 года Еўразійскага эканамічнага саюза, хоць Беларусь разлічвала на іншае.

**Украіна.** Краіна спыняе, як заявіў сакратар Савета нацбяспекі і абароны Андрэй Парубій, сваё старшынства ў СНД і выходзіць з арганізацыі, падкантрольнай цалкам інтарэсам РФ.

**Грузія.** На тэрыторыі акупіраванай РФ Абхазіі даведзены да галечы і адчаю народ дамогся добраахвотнай адстаўкі свайго карумпіраванага ўрада і прэзідэнта А. Анквабы.

**Егіпет.** Як і чакалася, экс-міністр абароны генерал Абдэль Сісі, які адхіліў ад улады ісламістаў, перамог на прэзідэнцкіх выбарах, набраў больш 93 % галасоў выбаршчыкаў.

**Іспанія.** Пасля 40 год праўлення 76-гадовы кароль Хуан Карлас I адрокся ад трону па стане здароўя на карысць 46-гадовага сына прынца Феліпэ, пры ім быў росквіт дэмакратыі

**Германія.** Самай уплывовай жанчынай свету 4-ы год запар прызналі канцлера Ангелу Меркель, яна рашуча выступае за вяртанне Крыма Украіне і цэласнасць граніц у Еўропе.

**Венесуэла.** Папулісцкі ўрад вырашыў адкласці павышэнне цэн на самы танны ў свеце бензін, аднак эканоміка краіны ў цяжкім крызісе, растуць шалёна цэны і дзярждоўг.

**ЗША.** Захоп Пуціным Крыма, як заявіла газета "New York Times", аслабіў расійскую эканоміку, дапамог Кітаю атрымаць выгадны дагавор па газу, актывізаваў НАТА і ЕС.

**Расія.** Толькі ў Чачню прывезлі з Украіны ўжо 45 цел чачэнцаўбаевікоў, загінуўшых пад Данецкам, там знішчылі і інструктара ФСБ, руская вядуць гібрыдную вайну ва Украіне.

**Ватыкан.** Папа Рымскі Францыск не выключыў магчымасць пайсці на пенсію па стане дрэннага здароўя і паўтарыць учынак свайго папярэдніка Бенедзікта XVI.

**Карэя.** У краіне працягваюцца беды, больш 20 чалавек сталі ахвярамі пажару ў бальніцы горада Чансон, які ўстроіў 81-гадовы хворы пацыент з праблемамі памяці.

**Іспанія.** У суперлюксавым санаторыі на ўзбярэжжы Коста Бланка прэзідэнт РФ У. Пуцін прайшоў у каралеўскіх апартаментах курс пахудзення і амаладжальных працэдур.

**Польшча.** Ва ўзросце 90 гадоў памёр генералпрэзідэнт Войцех Ярузельскі, які ўвёў ваенны стан і не дапусціў уводу войск СССР, потым павёў палякаў па шляху дэмакратыі.

**Мексіка.** У клініцы горада Мантэрэй на 49-м годзе жыцця памёр самы цяжкі ў свеце чалавек Мануэль Урыбе, які на момант смерці меў вагу 394 кг, яго маса была раней 597 кг.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Смалявічы.** Падчас наведвання РУП "Шыляны" А. Лукашэнка загадаў вяскоўцаў перавесці на ваеннае становішча да ўборкі хлябоў і мабілізаваць на нарыхтоўку кармоў.

**Астравец.** На будаўнічай пляцоўцы Беларускай АЭС пачаліся работы па ўзвядзенні фундамента будынка другога энергаблока станцыі, амаль ужо гатова аддзяленне рэактара.

**Мінск.** Прэзідэнт часова дазволіў імпарт замежнай свініны, загадаў аднавіць да зімы ранейшае пагалоўе свіней, задумаўся зрабіць свабоднымі цэны закупкі мяса і малака.

**Гродна.** Услед за Мінскам і Віцебскам кампанія "МакДональдс" вырашыла пабудаваць у абласным цэнтры адзін-два свае рэстараны папулярнай сеткі хуткага харчавання.

**Мінск.** Віцэ-прэм'ер урада А. Тозік прапанаваў беларусам поўнасцю аплочваць паслугі ЖКГ, аднак невядома, калі гэта будзе, бо заробкі ў многіх людзей невысокія.

**Слаўгарад.** Перад пахаваннем 82-гадовага жыхара вёскі Лясная ў доме нябожчыка ўспыхнуў пажар з-за свечкі каля труны, калі ўсе снедалі, цела вынеслі, а хата згарэла.

**Мінск.** Больш за 30 педагогаў гімназіі № 17 вырашылі звольніцца з працы ў знак пратэсту супраць траўлі чыноўнікамі свайго дырэктара, якую прымусілі пакінуць пасаду.

**Рэчыца.** З інтэрвалам некалькі тыдняў 38-гадовы раней судзімы ў адной з вёсак раёна спачатку забіў суседку-пенсіянерку, а потым падчас п'янай спрэчкі свайго равесніка.

**Мінск.** На Усходніх могілках сталіцы пахавалі паэта Генадзя Бураўкіна, там знайшлі вечны спакой і В. Быкаў, У. Караткевіч. І. Мележ, І. Шамякін і іншыя выдатныя творцы.

**Маладзечна.** У памяшканні цэнтральнай бібліятэкі горада 1960 года пабудовы раніцай абваліся столь на 2-ім паверсе чытальнай залы, якая не эксплуатуецца.

**Мінск.** Са спазненнем адкрылі ў сталіцы новую станцыю метро "Малінаўка", разлічаную на перавозку ад 20 тысяч пасажыраў у суткі, пусцілі яшчэ 5 рухомых саставаў.

**Гродна.** У цяжкім стане даставілі ў бальніцу трох выпускнікоў школы: двух дзяўчат і юнака, якіх на падыходзе да набярэжнай Нёмана збіў малады нявопытны вадзіцель.

**Гомель.** Пасля арышту на 30 сутак і галадоўкі пратэсту шпіталізавалі пенсіянера Юрыя Рубцова, яго "віна" была ў з'яўленні на публіцы ў майцы з надпісам "Лукашенко, уходи".

**Буда-Кашалёва.** Вечарам п'яны 35-гадовы муж застрэліў з паляўнічага ружжа жонку з-за не моцнай цягі да курэння і спрабаваў застрэліцца сам, з-за цыгарэт разгарэўся скандал.

**Мінск.** Мужчынская зборная Беларусі па валейболе пад кіраўніцтвам трэнера Віктара Сідзельнікава другі раз запар прабілася ў фінальную частку чэмпіянату Еўропы ў Італіі.

# Рэабілітацыйны цэнтр для былых зняволеных плануецца стварыць ў Гарадоцкім раёне



■ Дайджэст

**Рэабілітацыйны цэнтр для былых зняволеных ствараецца ў вёсцы Сяло Гарадоцкага раёна для інтэграцыі іх у грамадства. Пра гэта паведаміла журналістам пасол добрай волі дабрачыннай арганізацыі «Вугорская Міжцаркоўная дапамога» Аніко Леваі, перадае карэспандэнт БелТА.**

Аніко Леваі адзначыла, што «Вугорская Міжцаркоўная дапамога» атрымлівае падтрымку падаткаплацельшчыкаў Венгрыі, а для рэалізацыі праекта мяркуецца атрыманне гранта Еўрасаюза. Як толькі неабходная сума ў 250 тысяч еўра будзе сабрана, пачнецца поўнамаштабная праца. Плануецца ў Беларусі адкрыць тры цэнтра рэабілітацыі і інтэграцыі, дзе былыя зняволеныя будуць жыць і займацца сельскай гаспадаркай: у Віцебскай вобласці, Брэсце і Гомелі. На Віцебшчыне былыя зняволеныя будуць збіраць лекавыя травы і гадаваць жывёлу. Пры неабходнасці для іх будзе арганізавана навучанне.

Праект разлічаны на два гады. Яго рэалізацыяй у Беларусі пры падтрымцы венгерскіх партнёраў займаецца Міжканфесійная місія «Хрысціянскае сацыяльнае служэнне». Па словах яе дырэктара Мікалая Матрунчыка, для цэнтра ў в.Сяло ў хуткім часе будзе закуплена абсталяванне для вырошчвання і ўпакоўкі лекавых траў.

Мікалай Матрунчык падкрэсліў, што палітыка рэсацыялізацыі асобы - працэс складаны, ён уключае комплекс духоўна-маральных, прававых, арганізацыйных, псіхалагічных, выхаваўчых і іншых мераў ўздзеяння на былых асуджаных.

Жонка прэм'ер-міністра Венгрыі Віктара Орбана, пасол добрай волі дабрачыннай арганізацыі «Вугорская Міжцаркоўная дапамога» Аніко Леваі планауе наведаць Віцебшчыну з двухдзённым візітам.. У склад дэлегацыі ўваходзяць прэзідэнт-дырэктар «Венгерскай міжцаркоўнай дапамогі» Ласло Лехель, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Венгрыі ў Беларусі Вілмаш Сіклавары, іншыя прадстаўнікі дыпмісіі і дабрачыннай арганізацыі.

Сімвалічна, што прыезд царкоўнай гуманітарнай місіі на Віцебшчыну супаў з правядзеннем у Мінску IV Еўрапейскага праваслаўна-каталіцкага форуму, на якім абмяркоўваліся тэмы захавання хрысціянскіх каштоўнасцяў і сумесных намаганняў царквы і дзяржавы ў сацыялізацыі асобы.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Глыбокае.** Сёлета ў раёне павінны пабудаваць 11 тысяч кв. м жылля, аднак у чарзе на паляпшэнне жыллёвых умоў стаіць больш 1500 чалавек, 144 шматдзетныя сем'і.

**Расоны.** Жыхары раёна і вобласці ў смутку пасля смерці ў 77 гадоў ад раку славутага земляка, выдатнага беларускага паэта і патрыёта Бацькаўшчыны Генадзя Бураўкіна.

**Віцебск.** А. Лукашэнка рэзка раскрытыкаваў кіраўніцтва вобласці, што бракуе яму мазгоў і адказнасці, тут упарта гнуць сваё, не развіваюць на вёсцы малочнае пагалоўе.

**Полацк.** Беларуская чыгунка падпісала дагавор з калегамі з Латвійскай чыгункі аб супрацоўніцтве ў электрыфікацыі ўчастка дарогі да Даўгаўпілса, каардынацыі перавозак.

**Лёзна.** Пры дапамозе Віцебскага аддзялення Беларускай чыгункі ў аграгарадку Новае Сяло пабудавалі сучасны інтэрнат блочнага тыпу для 37 маладых спецыялістаў.

**Віцебск.** Пасля трох дзён кваліфікацыйных выпрабаванняў на базе 103-й мабільнай брыгады 3 з 42 вайскоўцаў сіл спецаперацый атрымалі знакі "Доблесць і майстэрства".

**Паставы.** На заказе Глыбоцкага ПЭС мясцовае прадпрыемства меліярацыйных сістэм ля вёскі Полава пачало ачыстку тэрыторыі пад лінію электраперадач 110 кілавольт.

**Наваполацк.** З-за скарачэння колькасці асуджаных у РБ вырашылі закрыць мясцовую і Магілёўскую калоніі, на іх базе ствараць тры ЛПП для хранічных алкаголікаў.

**Гарадок.** Да прадстаячых "Дажынак" капітальна адрамантуюць і будынак райаддзела міліцыі з устаноўкай камер відэаназірання, міліцыя вобласці атрымала 39 аўто "Geely".

**Віцебск.** Пасля двух месяцаў зніжэння сёлета заробкаў у працуючых на Віцебшчыне ў красавіку сярэдняя зарплата вырасла (5-я ў РБ) і дасягнула ўзроўню снежня мінулага года.

**Сянно.** Днём на дарозе каля вёскі Кругляны ВАЗ-2105 нечакана зляцеў у кювет і ўрэзаўся ў дрэва, у бальніцу даставілі з траўмамі 29-гадовага вадзіцеля і 25-гадовую пасажырку.

**Орша.** Услед за іншымі рэгіёнамі ў горадзе і раёне адключылі аналагавыя перадатчыкі тэлебачання, забяспечана 100-працэнтнае пакрыццё лічбавым сігналам стандарта DVB-T.

**Полацк.** Па новым графіку перавозак з лета паязды па маршруце Полацк-Сімферопаль, а таксама Віцебск-Еўпаторыя будуць хадзіць праз Украіну ў Крым раз у чатыры дні.

**Віцебск.** Адыёзны дзеяч рускага руху А. Герашчанка публічна абурыўся падтрымкай улад Беларусі Украіны, зноў адмовіў беларусам у праве дзяржаўнасці і незалежнасці.

**Полацк.** На галоўным корпусе мясцовага дзяржуніверсітэта з'явіўся вялізны электронны гадзіннік з падсветкай рознымі колерамі, летам цыферблат чырвонага колеру.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Асцярожна! Баршчэўнік



Баршчэўнік вырас нават у былым парку графа Плятэра ў Лужках.

**У Беларусі працягваецца барацьба з раслінай-агрэсарам – баршчэўнікам Сасноўскага. Праграма па барацьбе з ім была прынятая яшчэ ў 2008 годзе. Як сцвярджаюць спецыялісты, зараз тэмпы распаўсюду баршчэўніка знізіліся, тым не менш расліна ўяўляе вялікую небяспеку.**

■ **Зміцер Лупач**

## Што гэта за расліна?

Баршчэўнік Сасноўскага адносіцца да сямейства парасонавых, расліна вельмі вялікая, звычайна вырастае ад аднаго да паўтара метраў, але часта можна сустрэць і трохметровыя зараснікі гэтай расліны. Асобныя карані баршчэўніка могуць пранікаць у глебу да двух метраў. Баршчэўнік занесены ў Кнігу рэкордаў Гінеса як саммае буйное пустазелле.

Расліна двухгадовая або шматгадовая, цвіце адзін раз. Цвіценне адбываецца на 2 – 7-ым годзе жыцця. Калі няма спрыяльных умоў для цвіцення, баршчэўнік можа пражыць да дванаццаці гадоў.

Пасля цвіцення адна расліна дае да ста тысяч штук насення, якое распаўсюджваецца па наваколлі. Спрыяюць гэтаму колы машын, якія могуць занесці яго на сотні кіламетраў, вецер, насенне можа пераносіцца вадой.

## Таксічнасць баршчэўніка

Сок расліны ўтрымлівае светаадчувальныя рэчывы, якія пад дзеяннем ультрафіялетавых сонечных прамянёў выклікаюць апёкі скуры. Асабліва небяспечна тое, што пры кантакце з раслінай гэта адразу не адчуваецца, таму часта ад гэтага церпяць дзеці.

Калі ж сок расліны патрапіць на скуру, яе трэба прамыць вадой з мылам і выключыць яе кантакт з сонечнымі прамянямі каля двух сутак.

## Распаўсюджванне

У натуральных умовах расліна расце на Каўказе, у Закаўказзі і Турцыі. Зараз жа баршчэўнік распаўсюдзіўся ў цэнтральных і паўночных раёнах Расіі, у Беларусі, Украіне, Латвіі, Літве, Эстоніі, Германіі, Польшчы, Скандынаўскіх краінах.

У Беларусі зараз вядома каля 1600 месцаў, дзе расце гэтае злоснае пустазелле, агулам жа ён займае каля трох тысяч гектараў. Найбольш яго ў Віцебскай (43%) і Мінскай (41%) абласцях. На Віцебшчыне яго асабліва шмат у Віцебскім, Ушацкім і Браслаўскім раёнах.

Расце ён і на мяжы Глыбоцкага і Шаркоўшчынскага раёнаў, калі ехаць у бок Лужак. Нават стаў прабірацца ў горад з боку Беразвечча!

## Адкуль яна з'явілася ў Беларусі?

Часта можна пачуць, што яе закінулі нам амерыканцы. Тут трэба адзначыць поспех нашай афіцыйнай прапаганды, якая выпрацавала ў народа звычку ўсё дрэннае звязваць з Амерыкай. У выпадку з баршчэўнікам усё атрымалася наадварот – ён да нас прыйшоў з Расіі.

У часы кіравання Сталіна ад яго паступіў загад: знайсці танны спосаб хутка накарміць жывёлу. Вядучыя навуковыя ўстановы Савецкага Саюза кінуліся яго выконваць. Даследчыку каўказскай флоры Сасноўскаму ўдалося вывесці гатунак баршчэўніка, які падыходзіў у якасці кармавой культуры. Ну як жа?! Расліна патрабавала мінімальнага дагляду, хутка расла, давала шмат зялёнай масы. І яго пачалі актыўна распаўсюджваць.

У Расіі яго пачалі вырошчваць з 1947 года, потым расліну сталі вырошчваць у Латвіі, Эстоніі, Літве, Беларусі, Украіне, былой ГДР, Польшчы. Хутка заўважылі, што пасля з'ядання баршчэўніка каровамі малако ў іх становіцца горкім, яно непрыдатнае для кармлення цялят і ўжываннем у ежу чалавекам. Акрамя таго, сок раслін выклікаў моцныя апёкі скуры.

У Еўропе гэту расліну празвалі "помста Сталіна" і пачалі з ёй змагацца. У нас жа яшчэ яе лічылі каштоўнай кармавой раслінай і працягвалі вырошчваць на палях. Калі аўтар гэтага матэрыялу вучыўся ў Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі, то ў 1991 годзе нас яшчэ вучылі, што баршчэўнік Сасноўскага – перспектыўная кармавая расліна, пасевы якой трэба пашыраць.

Выявілася, што баршчэўнік Сасноўскага лёгка дзічэе і перасяляецца з палёў на лугі, у лясы, проста закінутыя землі. І калі на палях з ім яшчэ можна змагацца, то ў натуральных умовах гэта зрабіць амаль немагчыма.



Распаўсюд баршчэўніка ў Беларусі

## Барацьба з баршчэўнікам

Як ужо згадвалася вышэй, дзяржаўная праграма па барацьбе з баршчэўнікам была прынятая яшчэ ў 2008 годзе. За гэты час удалося запаволіць, а месцамі і спыніць далейшы распаўсюд гэтай расліны. Але да поўнай перамогі яшчэ вельмі далёка.

Калі не прыняць неадкладных мераў па далейшай барацьбе з гэтым злом, то ў наступным, 2015 годзе баршчавік зойме ў паўтара раза большую тэрыторыю. Барацьба, канечне, вядзецца, але і тут не ўсё гладка. Як гаворыцца ў дакладзе, падрыхтаваным вучонымі Інстытута эксперыментальнай батанікі: «*На жаль, адсутнасць незалежнага кантролю мерапрыемстваў, што праводзяцца, часта прыводзіць да завышэння аб'ёмаў выкананых работ па абмежаванні распаўсюджвання баршчэўніка Сасноўскага, зніжэння іх якасці і эфектыўнасці ў шэрагу рэгіёнаў. У выніку, нягледзячы на выдзеленыя фінансавыя рэсурсы, экспансія баршчэўніка Сасноўскага ў краіне працягваецца*».

Як падкрэслівае Мікалай Ламан, загадчык лабараторыі росту і развіцця раслін Інстытута эксперыментальнай батанікі Нацыянальнай акадэміі навук: "*Неабходна ўсведамляць, што калі адна расліна здольна пакінуць 100 тысяч насення, то ўсе астатнія меры - сізіфава праца. Нельга дапускаць, каб расліны зацвіталі і фармавалі насенне. На жаль, у нашых глебава-кліматычных умовах барацьба з баршчэўнікам абяцае быць працяглай.*"

Галоўнай мерай барацьбы Мікалай Ламан лічыць перыядычнае падкошванне і падсяканне раслін да раскрыцця першых кветак цэнтральнага парасоніка баршчэўніка. Пры гэтым павінна быць выкарыстана звычайная каса-літоўка, але ні ў якім разе не бензакаса. Апошняя ў барацьбе з баршчэўнікам неэффектыўная па той прычыне, што бакавыя парасткі адразу ж замяшчаюць цэнтральны. Але ж дзе ўзяць столькі людзей, каб змагацца з агрэсарам ручнымі метадамі?

Зараз існуюць чатыры асноўных спосабы барацьбы з "помстай Сталіна": ручны – падкопванне рыдлёўкамі, выкашванне, якое праводзіцца некалькі разоў на год, прымяненне пестыцыдаў, а таксама заворванне і засеў тэрыторыі ляснымі культурамі і травянымі сумесямі. Апошні спосаб лічыцца найбольш эфектыўным, але не ўсюды яго можна выкарыстаць. Баршчавік таксама прыстасоўваецца і расце часам у вельмі недаступных месцах.

Складанасць яшчэ ў тым, што за мінулыя гады ў глебе назапасілася шмат насення з мінулых гадоў, якое не губляе сваёй жыццёвай сілы на працягу дзесяці і больш гадоў. Таму, калі такая глеба трапляе ў горад для клумб і газонаў, то разам з ёй у горад трапляе і баршчэўнік. Асабліва востра такая праблема стаіць у сталіцы.

Эфектыўным спосабам барацьбы застаецца хімічны. Гэта прымяненне гербецыдаў. Але і тут ёсць складанасці – не ўсюды магчыма іх прымяненне. Таму выснова толькі адна – змагацца з гэтай раслінай можна толькі комплексна, па магчымасці выкарыстоўваючы тыя сродкі, якія эфектыўныя ў дадзеным выпадку. Галоўнае – не дапускаць цвіцення расліны.

Час пакажа, хто каго пераможа, пакуль жа нагодай для аптымізму замала – баршчэўнік працягвае наступаць. Як падкрэслівае Мікалай Ламан: "*Аб праблеме трэба больш пісаць у газетах, здымаць спецыяльныя фільмы, рабіць тэлевізійныя праграмы, каб людзі, у тым ліку тыя, хто прымае рашэнні, лепш разумелі ступень небяспекі, якая зыходзіць ад чужароднай расліны, і каб да свядомасці кожнага дайшла простая ісціна: з баршчэўнікам мы зможам справіцца толькі ўсе разам.*"

Да гэтых слоў няма што дадаць, акрамя таго, што мінулае павінна паслужыць нам урокам, як валявое рашэнне аднаго чалавека, нават у такой мірнай сферы як сельская гаспадарка, стала праблемай для цэлых народаў на доўгія гады.



Едзеш, як у тунэлі. Тыповая карціна для расійскіх дарог.

# Калі б сёння мы яшчэ жылі па законах Вялікага Княства Літоўскага – сотні браканьераў хадзілі б па Глыбокаму без аднаго вуха

**Ці ёсць смелыя кінуць бутэльку ў возера?... Калі ласка, інспектары вас даўно чакаюць! Толькі захапіце з сабой 3 000 000 рублёў на штраф!**

**Аляксей Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

У краіне дзясяткі, сотні парушальнікаў прыродаахоўнага заканадаўства затрымоўваюцца супрацоўнікамі Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету толькі за адзін тыдзень, але праблема экалогіі, захаванне прыродных багаццяў краіны не губляе сваю актуальнасць. Нягледзячы на велізарныя штрафы, пазбаўленне волі за прыродаахоўныя парушэнні, браканьеры працягваюць дзеяць свае цёмныя справы.

Дзяржава не сыходзіць ад праблемы браканьерства, а прымае актыўныя і сталыя меры і высілкі па яго выкараненні, часам можа здацца, што прыманыя меры па навядзенні парадку ў прыродаахоўнай сферы цвёрдыя, значыць па іншым – нельга. Толькі за апошнія гады дзясяткі тысяч браканьераў і парушальнікаў парадку панеслі суровыя пакаранні, за нанесеную прыродзе шкоду, з парушальнікаў спагнаны мільярды рублёў.

Мы не аднойчы пісалі, што браканьерства – падобна крадзяжу, якое выкараніць няпроста. Яшчэ ў старажытныя часы з браканьерствам вялі барацьбу самымі цвёрдымі мерамі. Так у "Статуце Вялікага Княства Літоўскага за 1588 год за браканьерскае вылоўліванне рыбы прадугледжваліся суровыя пакаранні: лупцаванне пугамі – за першы раз, за другі раз – адразанне вуха, смяротнае пакаранне – за трэці. Калі меркаваць па апошніх пяці гадах, то жаласная доля магла б спасцігнуць сотні чалавек, якія здзейснілі факты браканьерства. І такіх, на жаль, шмат. Можа быць, гэта і суровая мера, але мабыць у тыя часы была вельмі неабходная. Зараз законы больш гуманныя і цялесныя пакаранні не ўжываюцца.

За мінулы тыдзень супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі затрыманыя грамадзяне, якія рашылі пагуляць з законам, а няхай гэта быў бы "Статут Вялікага Княства Літоўскага" – не пазбегнуць ім, прынамсі, лупцавання пугамі.

6 чэрвеня 2014 года супрацоўнікамі Глыбоцкай міжрайінспекцыі сумесна з участковым інспектарам Пастаўскага РАУС паблізу г. Паставы затрыманы мясцовы жыхар, які перавозіў у сваёй машыне сеткі, якія ён, нібыта, знайшоў на беразе возера і вырашыў іх сабе забраць. Зараз за незаконнае захоўванне сетак панёс адказнасць у выглядзе штрафу да 20 базавых велічынь, а таксама – і за прысваенне знойдзенага належыць штраф.

А вось два браты, выхадцы в. Кублічы Ушацкага раёна, прыехалі да бацькоў у госці і вырашылі сварыць юшкі, ідэя вядома ж добрая, толькі спосаб здабывання рыбы яны абралі не зусім законны. Прыехалі на возера Белае, што на мяжы Глыбоцкага і Ушацкага раёнаў каля 22 гадзін і да 2 гадзін ночы, з дапамогай фары, акумулятара і стрэльбы для падводнага палявання настралялі рыбы, ліноў, карасёў і шчупакоў. Аднак, цемра не дапамагла нахабным браканьерам скончыць сваю справу юшкай, супрацоўнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі затрымалі парушальнікаў, за што – велізарны дзякуй неабыякавым грамадзянам.

Яшчэ адна праблема – экалагічная. Шматлікія вадаёмы, прыбярэжная паласа і лясныя масівы захламленыя. Прычына банальная – чалавечае бескультур'е. Назіраецца небывалая цікавасць народа да рыбалкі, колькасць рыбаловаў павялічылася ў дзясяткі разоў. Зрэшты, не рыбаловаў, а людзей з вудамі, якія з праўдзівымі рыбакамі "побач не стаялі". Шматлікі з так званых "рыбакоў" можна смела прылічыць да ліку звычайных п'яніц. Яны і лавіць рыбу толкам не ўмеюць, а прыбіраць за сабой – пагатоў.



Жыхар г. Глыбокае, назавём яго Сашам, адпачываючы на беразе возера Кагальнае, атрымліваючы асалоду на вячэрнім свежым паветры, выпіў бутэлечку віна, а пустую бутэльку выкінуў у возера, нягледзячы на тое, што побач з ім знаходзіліся дзве урны. Вынік адпачынку – штраф у памеры 300 тысяч рублёў за забруджванне вадаёма. Калі яшчэ ёсць ахвотнікі, то супрацоўнікі міжрайінспекцыі чакаюць такіх госцяў, але неабходна ўлічваць, што наш герой Саша знаходзіцца на групе па інваліднасці, а таму і штраф адносна невялікі, для астатняй катэгорыі грамадзян – да 3 млн. рублёў. Выкідвайце смецце ў кантэйнеры.

Мы яшчэ не адвыклі ківаць на іншых, лічачы, што хтосьці, першым чынам дзяржорганы, абавязаны вырашаць праблемы экалогіі, клапаціцца пра захаванне прыродных багаццяў. Пры гэтым не задумваемся над тым, якія страты прыродзе наносім непасрэдна мы самі, кіруючыся прыказкай "пакуль гром не грымне, мужык не перахрысціцца". Так, гэта наша праблема, але дзяржава ад яе не адхрышчваецца, а зусім наадварот, вырашае яе ўсімі сіламі.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя дзякуе ўсім грамадзянам, якія аказваюць дапамогу ў барацьбе з браканьерствам.

Пра ўсе здзяйсняныя парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць па "тэлефон даверу" Глыбоцкай МРІ: 2-86-70 – кругласутачна, мабільныя тэлефоны: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78 – кругласутачна.

# У Глыбокім з'явіўся Сквер маладых



**Яўген Самсонаў**

**Паміж аўтастаянкай асабістага транспарту, што па вуліцы Маскоўскай у Глыбокім, і возерам Кагальным, з'явіўся Сквер маладых.**

Як патлумачыла каардынатар гэтага праекту Таццяна Працук, ідэя стварэння яшчэ аднаго прыгожага комплексу належыць супрацоўніцы Белаграпрамбанка Таццяне Каляга, а аўтарам праекту з'яўляецца Дар'я Мацеша.

Выраб інжынерных канструкцый комплексу ажыццявіў майстар Юрый Татарыновіч, а да добраўпарадкавання спрычыніліся мясцовыя камунальнікі, ДРСУ-145, супрацоўнікі "Белпошты" і санэпідэмстанцыі.



Цяпер для маладых з'явілася адмысловае месца для фотасесій.

# У Мёрскім раёне пабудуюць завод па вытворчасці металічнага ліста і белай бляхі

**Аляксандр Лукашэнка 9 чэрвеня падпісаў указ № 271 "Аб рэалізацыі інвестыцыйнага праекта", які прадугледжвае будаўніцтва і ўвод у эксплуатацыю на тэрыторыі Мёрскага раёна Віцебскай вобласці завода па вытворчасці металічнага ліста і белай бляхі.**

Як паведамляе прэс-служба прэзідэнта, інвестпраект уключаны ў Дзяржаўную праграму інавацыйнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 2011—2015 гады.

Указам устанаўліваюцца тэрміны паэтапнага будаўніцтва аб'ектаў інжынернай і транспартнай інфраструктуры названага прадпрыемства – сетак электра-, газа- і водазабеспячэння, сувязі (да 1 студзеня 2016 года), а таксама транспартных камунікацый (да 1 ліпеня 2016 года). Вызначаны пэўныя замоўцы па праектаванні камунікацый, якія забяспечваюць дзейнасць завода.

"Інвестыцыйны праект мае важнае сацыяльна-эканамічнае значэнне для развіцця рэгіёну. Яго рэалізацыя дазволіць павялічыць экспартны патэнцыял і паменшыць залежнасць краіны ад імпартных паставак металапрадукцыі гэтага асартыменту, стварыць каля 600 новых працоўных месцаў і спрыяць прытоку кваліфікаваных кадраў ва ўказаны сельскі раён", — гаворыцца ў паведамленні прэс-службы.

*Аляксей Арэшка, БелаПАН.*

# Тэлевізар выбухнуў ад удару маланкі і загарэлася хата

**5 чэрвеня ў пасёлку Чапаеўскі Верхнядзвінскага раёна падчас навальніцы адбыўся пажар у хаце састарэлага пенсіянера.**

Загаранне адбылося каля 19:00, 92-гадовы гаспадар тым часам знаходзіўся ў доме, аднак паспеў самастойна пакінуць падпалены будынак. Праўда, усё ж атрымаў апёкі галавы першай ступені.

Прыбылыя на выклік выратавальнікі выявілі ўжо падпаленую адкрытым полымем хату, адбылося абвальванне даху і столі. Пацярпелага мужчыну агледзелі лекары, затым на "хуткай" яго адправілі ў шпіталь.



Меркавана, маланка стукнула ў тэлевізійную антэну, у выніку чаго выбухнуў тэлевізар і пачаўся пажар, як у хаце, так і ў месцы ўдару маланкі, паведамляе прэс-служба МНС.

У выніку пажару ў хаце знішчаны дах, столь, пашкоджаныя сцены, маёмасць.

***ННВ.***



# Няма ў чалавека душы!

■ Уладзімір Скрабатун

Адзін кіроўца аўта, жыхар Азерцаў, ехаў у Глыбокае па шашы Полацк-Вільня. На скрыжаванні з вуліцай Мінскай, там дзе прыватныя гаражы і выкапаная сажалка, качка маці пераводзіла сваіх птушанят праз бойкую трасу.

– Адзін “стары пень”, які ехаў наперадзе, не прытармазіў!– кажа Казік, кіроўца, які ехаў за ім. Качка маці і двое птушанят паспелі зысці ўжо на ўзбочыну, а трое загінула пад коламі аўта. Качка ўбачыла і зноў вярнулася на асфальт, пачала сцяліцца па асфальце, махаючы крыламі, нібы абараняючы ўжо загінулых птушанят. Кіроўцы спыніліся, хтосьці аб’ехаў збоч, але ніхто не пачаў таптаць качку, хоць і дзікую, а не свойскую.

– Мог жа і гэты “стары пень” спыніцца!- працягвае сваё абурэнне Казік. Тым больш, з боку лягсаса і з боку возера Бяглец стаяць знакі абмежавання хуткасці – 40 і 60 км. Але ён не спыніўся! Хоць і меў права не спыняцца, але ж мог бы! Няма ў чалавека душы!

## Віншаванкі

Ірыну Храмую,

**выпускніцу гімназіі г. Глыбокае**

**Віншуем з выпускным балем і заканчэннем гімназіі!**

Кем бы в жизни ты не стала,
Лишь бы только не устала.
Открывай и удивляйся,
Покоряй, не покоряйся,
Верь и чуду, верь и людям -
На тебя равняться будут!

*Бабулі Лілія, Ганна, дзядуля Мар’ян.*



## МНС інфармуе
**на 10.06.2014 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 535;
Гібель людзей – 65, з іх 2 дзяцей;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 22;
Гібель людзей – 2, з іх дзяцей няма;
Урон – 474.87 млн. руб.

# Як пазбегнуць бытавых электратраўмаў

■ **Ішуцін А.Н.**
*інспектар энергаінспекцыі Глыбоцкага МРА «Энерганагляду».*

Кожнаму з нас бліжэй не тое, што адбываецца дзесьці там, а тое, што непасрэдна тычыцца нас саміх. Таму, першую чаргу, разгледзім праблемы бытавога электратраўматызму.

Да бытавога электратраўматызму адносяцца ўсе траўмы, звязаныя з токам, якія адбываюцца ў побыце, гэта значыць у хатніх, кватэрных і камунальных сетках.

Побытавы электратраўматызм – балючае месца сучаснай цывілізацыі. Пастаянна расце колькасць бытавога электраабсталявання, якое знаходзіцца ў эксплуатацыі. Калі злічыць ўсе тэлевізары, халадзільнікі, электрабрытвы, электрагазавыя запальніцы, электракаміны, электрыфікаваныя цацкі і іншыя электрапрыборы, што ёсць у наяўнасці ў кватэрах сучаснага шматкватэрнага дома, то можна ўбачыць, што па ліку і сумарнай устаноўленай магутнасці яны пераўзыходзяць электраабсталяванне завода ці фабрыкі сярэдняй велічыні.

Алекалiналюбоепрадпрыемства распаўсюджваюцца патрабаванні аб спецыялізаваным наглядзе за выкананнем правіл па ахове працы і электрабяспекі, прычым нагляд гэты ажыццяўляюць супрацоўнікі энергаінспекцый, тэхнічныя інспектары прафсаюзаў і іншыя спецыялісты, то эксплуатацыя бытавога электраабсталявання з'яўляецца справай выключна саміх кватэранаймальнікаў і камендантаў інтэрната, г. зн. асоб, якія не маюць спецыяльнай класіфікацыйнай групы па электрабяспецы.

Таму неабходна ведаць некалькі агульных правілаў, выкананне якіх можа прадухіліць магчымыя непрыемнасці пры эксплуатацыі электрычных прыбораў.

Частай прычынай электратраўматызму з'яўляецца парушэнне ізаляцыі электраправодкі ў даступных для дотыку месцах. Асабліва гэта характэрна для памяшканняў, дзе выканана адкрытая пракладка электраправодкі. Таму пры выяўленні парушэння ізаляцыі неабходна прыняць тэрміновыя меры для яе аднаўлення.

Пры ўзнікненні кароткіх замыканняў або перагрузак ў электрычных ланцугах павінны адключацца аўтаматычныя выключальнікі або «перагараць» плаўкія ўстаўкі засцерагальнікаў, устаноўленыя ва ўводных шчытах жылых дамоў ці кватэр. Для выключэння ўзгарання электраправодкі, токавыя ўстаўкі гэтых апаратаў павінны быць калібраванымі, гэта значыць яны павінны спрацоўваць пры токах, якія перавышаюць устаноўленыя значэнні. Выкарыстанне некалібраваных плаўкіх уставак (жучкоў) катэгарычна забараняецца.



Пры эксплуатацыі ўнутрыдамавых электрычных сетак важна сачыць за спраўнасцю ўсталявальных элементаў электраправодкі (разетак, выключальнікаў, і да т.п.), каб яны не сталі прычынай паражэння электрычным токам.

Сеткавыя шнуры бытавых прыбораў часта выходзяць са строю з-за надлому або абрыву токаправоднай жылы, прыводзіць да іскрэння, нагрэву і нават да ўзгарання провада. Таму неабходна сачыць за спраўнасцю ізаляцыі правадоў і вілак уключэння сеткавых шнуроў.

Пры неабходнасці рамонту электрапрыбораў абавязкова папярэдняе адключэнне электрапрыбора ад электрычнай сеткі. Але самы верны выхад з гэтай сітуацыі – даручыць выканаць рамонт кваліфікаванаму адмыслоўцу.

І самае галоўнае – забараняецца пакідаць электрапрыборы пад напружаннем без нагляду на доўгі час.

Гэтыя правілы гарантуюць вам надзейнасць працы і бяспеку пры эксплуатацыі бытавых прыбораў.

# Лавіць рыбу ў зоне праходжання паветранай лініі электраперадачы – небяспечна для жыцця

■ **Ішуцін А.Н.**
*інспектар энергаінспекцыі Глыбоцкага МРА «Энерганагляду».*

Са з'яўленнем вялікай колькасці рыбалоўных вудзілаў даўжынёй 5 метраў і больш адбыўся рост няшчасных выпадкаў з рыбакамі, якія трапілі пад дзеянне электрычнага току пад лініямі электраперадач 10-110 кілавольт. У пагоні за ўловам людзі не заўважаюць небяспекі, якая «навісла» над імі. У 2012 годзе адбылося 6 няшчасных выпадкаў з рыбакамі, з іх 4 выпадкі са смяротным зыходам. У 2013 годзе адбылося 4 няшчасныя выпадкі з рыбакамі, 3 з іх са смяротным зыходам.

22 красавіка 2013 года ў выніку набліжэння вудзіла да правадоў паветранай лініі напружаннем 35 кВ, якая праходзіць непасрэдна каля возера г. Клімавічы, падчас лоўлі рыбы пацярпелы атрымаў смяротнае паражэнне электрычным токам.

7 траўня таго ж года жыхар г. Мінска пры падыходзе да вадаёмаў ачышчальных збудаванняў населенага пункта Пашковічы Мінскага раёна рухаўся з раскладзенай вудай ў ахоўнай зоне паветранай лініі напружаннем 110 кВ. Пры праходжанні пад правадамі паветранай лініі, рыбак наблізіў вудаў на недапушчальную адлегласць да аднаго з правадоў паветранай лініі і быў смяротна паражоны электрычным токам.

4 чэрвеня мінулага года жыхар г. Гомеля рухаўся па полі каля н.п. Пакалюбічы Гомельскага раёна, у напрамку меліярацыйных каналаў з раскладзенай вугляпластыкавай вудай. Пры праходжанні пад правадамі паветранай лініі напружаннем 110 кВ адзін з мясцовых жыхароў, які знаходзіўся недалёк ад пацярпелага, убачыў яркі воблiск і хлапок, пасля чаго пацярпелы падышоў да яго з відавочнымі слядамі апёкаў твару і цела, знаходзячыся ў шокавым стане. Мясцовым жыхаром пацярпелы быў дастаўлены ў Гомельскую гарадскую бальніцу.

Энерганагляд папярэджвае: электраўстаноўкі небяспечныя для жыцця - паражэнне чалавека электрычным токам можа адбыцца без дотыку, а толькі пры набліжэнні на небяспечную адлегласць да токаводных частак.

Для паветраных ліній напружаннем 10-35 кВ яно складае менш за 0,6 метра, для паветраных ліній 110 кВ – менш за 1 метр.

Усялякага роду дзеянні ў непасрэднай блізкасці ад электраўстановак могуць прывесці да трагічных наступстваў.

Не варта падвяргаць смяротнай небяспецы паражэння электрычным токам сваё жыццё і жыццё іншых людзей.



# Тэлетыдзень «Вольнага Глыбокага»



## ПАНЯДЗЕЛАК, 16 чэрвеня

### Беларусь 1

**06.00, 07.20, 08.15** Доброе утро, Беларусь!
**07.00, 08.00** (с сурдопереводом), **09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.40** Новости.
**07.05, 08.05** Деловая жизнь.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**08.50** Слово Митрополита Павла на начало Петровского поста.
**09.10** Главный эфир.
**10.05** Клуб редакторов.
**10.45** «Теща счастью не помеха».
**12.10** «Николай Носков. Один против всех».
**13.10, 15.25** **«Диван для одинокого мужчины»**. 1-я и 2-я серии.
**15.15, 18.40** Новости региона.
**17.20** Наши.
**17.35** Белорусское времечко.
**19.20** Арена.
**19.40, 00.20** «Зона Х».
**19.55** Форум.
**21.00** Панорама.
**21.45** К 70-летию освобождения Беларуси от немецко-фашистских захватчиков. Док.цикл «Испытание». Фильм 5-й «Юные мстители».
**22.15** **«Черные кошки»**
**00.05** Актуальное интервью.
**00.55** День спорта.

### ОНТ

**06.00, 08.30** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.00** Наши новости.
**09.05** Контуры.
**10.00** «Жить здорово!».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** «В наше время».
**12.05** «Они и мы».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Время обедать!».
**13.55** «Модный приговор».
**15.00** «Наедине со всеми».
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15** «Смешное и еще смешнее».
**16.50** «Давай поженимся!».
**18.00** Наши новости (с субтитрами).
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Обратный отсчет». «Франциск Скорина. Судьба просветителя».
**18.55** «Пусть говорят»
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Ток-шоу «Позиция».
**22.05** «Война машин».
**22.40** Леонардо Ди Каприо в фильме **«Ромео+Джульетта»**.
**00.50-01.20** Ночные новости.

### Беларусь 2

**07.00** Утро.
**09.00** Телебарометр.
**09.05** **«Одна тень на двоих»** (Россия).
**10.05** Телебарометр.
**10.40** **«Разведка»**
**11.45** Фильм-сказка **«Живая вода»** (Чехословакия).
**13.15** «Два с половиной повара. Открытая кухня»
**13.50** **«Капитан Крюк»**
**16.25** «Перезагрузка».
**17.20** **«Одна тень на двоих»** (Россия).
**18.20** Футбол. Чемпионат мира. Обзор игрового дня.
**18.50** Футбол. Чемпионат мира. Германия - Португалия. Прямая трансляция.
**20.55** Время футбола. Рио-2014.
**21.45** КЕНО.
**21.50** Футбол. Чемпионат мира. Иран - Нигерия. Прямая трансляция.
**23.55** Телебарометр.
**00.00** **«Реальные пацаны»**
**01.00** «Перезагрузка».



### СТВ




**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро».
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро».
**08.30** «Неделя».
**09.45** «Большой завтрак».
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Званый ужин».
**11.40** «Такова судьба».
**12.30** «Четыре свадьбы».
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Большой город».
**14.30** «Дальние родственники».
**14.45** Группа «Jean-Christophe» против группы «Crush».
**15.45** «Другая страна». «БерегЧерной Горы».
**16.20** «Наше дело».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Следаки».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30** «Моипрекрасные...».
**19.30** «24 часа».
**20.00** Столичн.подробности
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Кино»: **«МИШЕЛЬ ВАЛЬЯН: ЖАЖДА СКОРОСТИ»**
**22.15** «Смотреть всем!».
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Военная тайна с Игорем Прокопенко».
**00.20** **«NEXT 3»**.

### БЕЛСАТ tv

**7:00** Размовы эксперта
**7:15** Зона«Свабоды»
**7:50** «Людскія справы» : Свіная чума. Пасля зачысткі
**8:20** Чаму дэмакратыя? «Жалезныя лэдзі Ліберыі»
**9:15** «Кропка апоры»
**10:15** Невядомая Беларусь:«Невядомая вайна 1654–1667 гг. Крывавы патоп»
**10:55** **«Бубачкі»**
**17:00** Кулінарныя пада-рожжы Макловіча
**17:35**«Фэмэн.Аўтапартрэт»
**18:30** Моўнік : Да якой ступені варта быць лянівым?
**18:40** Англійская для дзяцей
**18:45** Калыханка для самых маленькіх
**19:00** Аб'ектыў
**19:05** Назад у будучыню : З'яўленне новае дзяржавы – ВКЛ
**19:15** Размовы эксперта
**19:30** Побач з намі
**19:45** Гісторыя пад знакам Пагоні
**20:00** Навіны
**20:15** Агляд медыяў
**20:25** Агляд падзеяў культуры
**20:35** Дэвайс
**20:40** Размова дня
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** **«Запавет»**
**23:30** Інфармацыйна-публіцыстычны блок
**0:25** Аб'ектыў

